

Ня бойся!

Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 3 (174) ЛЮТЫ 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Той, хто будзе кіраваць усімі, павінен быць абраны сярод усіх**

*Пліні Малодшы*

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ГАЛОЎНУЮ ПРАБЛЕМУ НЕ ВЫРАШАЦЬ?..

**У Гарадку прыступілі да рэканструкцыі гатэля і фізкультурна аздараўленчага комплексу. Але вырашаць асноўную праблему жыццядзейнасці гэтых аб'ектаў абласныя чыноўнікі не плануюць.**

З пачатку лютага зачынена асноўная гасцініца Гарадка -- гасцініца Віцебскага абласнога цэнтра алімпійскага рэзерва па зімовых відах спорту. Адначасова пачалася праца на фізкультурна-аздараўленчым комплексу.

Па выніках рэканструкцыі ў гасцініцы будзе заменена абсталяванне, зменены інтэр'ер, мэбля і г.д. Плануецца ў рэшце-рэшт аднавіць працу кафэ. Яшчэ большых ператварэнняў чакае ФАК. У першым памяшканне, дзе размешчана зала гульнявых відаў спорту будзе зроблена рэканструкцыі падсобных памяшканняў, раздзявалак, душавых і плануецца сауна.

Другое памяшканне будзе дэмантавана і на яго месце павінен паўстаць доўгачаканы басейн.

Будаўнікі Віцебскага БУ-38 зараз вядуць дэмантаж састарэлага абсталявання ў гасцініцы, а таксама прыступілі да дэмантажа другога памяшкання, дзе павінен паўстаць басейн.

Адначасова ў Гарадку запланавана будаўніцтва сучаснай лыжеролернай трасы ў Варабьёвых гарах разам з біятлонным стадыёнам і адміністрацыйнымі будынкамі. На гэта будаўніцтва патрабуецца па ацэнках абласных уладаў 127 мільярдаў рублёў – амаль 13 млн. даляраў.

Мусіць менавіта тады будзе выканана пастанова Савета Міністраў краіны ад 1997 году аб стварэнні ў Гарадку Цэнтра зімовых відаў спорту. Абласныя чыноўнікі разлічваюць, што пасля гэтага ў Варабьёвых гарах магчыма будзе праводзіць сур'ёзныя спартыўныя спаборніцтва, а таксама падрыхтоўку беларускіх спартсменаў.

Але пры гэтым ніхто ў аблвыканкаме не жадае вырашыць самую актуальную праблему гасцініцы, а таксама ФАКа і будучага басейна – гэта энергетычная залежнасць ад Гарадоцкага прадпрыемства кацельных. Высокія кошты за ацяпленне не дазволяць рэнтабельна працаваць ні гасцініцы, ні Факу, ні басейну. Кошты за цяпло і сёння вялікімі даўгамі кладуцца на дзейнасць гасцініцы, а ў будучым будуць класціся на дзейнасць басейна і ФАКа.

Вырашэннем гэтай праблемы магло бы стаць будаўніцтва аўтаномнай кацельнай для гарадоцкага Цэнтра зімовых відаў спорту. Але час выбару разумнага рашэння сыходзіць. Сотні мільярдаў будуць выдаткаваны на дабраўпарадкаванне Гарадка. Але на вырашэнне галоўнай праблемы Цэнтра знайсці дзесятак мільярдаў віцебскія чыноўнікі не жадаюць.

**Л. Гаравы**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

## УЛАДА ЗНОЎ САМА БУДЗЕ ПІСАЦЬ ПРАТАКОЛЫ

**Фармаванне участковых выбарчых камісій у вобласці засведчыла, што выканаўчая вертыкаль сфармавала ўчастковыя камісіі з праверaных і надзейных членаў. Прадстаўнікі апазіцыйных партый адсутнічаюць у 98,6% усіх участковых камісій. Няма іх і ў складзе участковых камісій Гарадоцкага раёна.**

На гэтым тыдні на Віцебшчыне завяршылася фармаванне ўчастковых выбарчых камісій на выбарах 23 сакавіка ў мясцовыя Саветы. У 868участковых камісій прызначана 10568 чалавек, з якіх толькі 12 прадстаўляюць апазіцыйныя партыі: 7 – "Справядлівы свет" ( былая Партыя камуністаў Беларусі), 3 – АГП, 2- БСДП (Грамада). Улада ў чарговы раз самы вялікі бар'ер паставіла перад апазіцыйнымі прэтэндэнтамі. Толькі 22% прадстаўнікоў апазіцыйных партый былі ўключаны ў камісіі, пры 55% і 76% уключэння прадстаўнікоў праўладных партый Працы і справядлівасці і КПБ адпаведна.

Але гэтыя лічбы не ідуць ні ў якае параўнанне з працэнтам уключэння прадстаўнікоў ад праўладных грамадскіх арганізацый: ветэранскай – 94,8%, БРСМ – 97,0; Федэрацыі прафсаюзаў – 98,5%, Саюза жанчын – 99%, Белая Русь – 99,4%. Відавочна дыскрымінацыі палітычных апанентаў і паўстае пытанне аб транспарэнтнасці такога выбарчага працэса.

У Гарадоцкім раёне сфармавана 30 выбарчых участкаў у якія ўключана 338 членаў. Партыйнае прадстаўніцтва ў камісіях даверана толькі 4 прадстаўнікам КПБ. Адмоўлена ў прадстаўніцтве ў Гагарынскай камісіі Леаніду Гараваму, вылучанаму Віцебскай абласной арганізацыяй БСДП (Грамада).

На папярэдняй выбарчай кампаніі 2012 году ў Палату прадстаўнікоў Леанід Гаравы абскарджваў у судзе адмову і прывёў факты парушэння выбарчага заканадаўства пры вылучэнні трох праўладных прадстаўнікоў у Гагарынскую ўчастковую камісію. Пад час галасавання Гаравы будучы назіральнікам адстойваў свае права назіраць за працэдурай галасавання, зафіксаваў падробку дакументаў на ўчастку і ва акруговай камісіі. Але старшыня Цэнтрвыбаркама Ярмошына назвала першую пададзеную скаргу ў ЦВК паўторнай і адмовілася яе разглядаць. Генеральная пракуратура падтрымала неправамоцныя дзеянні Ярмошынай.

**Л. Антонаў**



НАША САЛІДАРНАСЦЬ

## "З МЯНЕ ВЫЦІСКАЮЦЬ ЗАЯВУ АБ ПРЫЗНАННІ ЛЕГІТЫМНАСЦІ"

**Мікалай Статкевіч, кандыдат у прэзідэнты 2010 году, даслаў Леаніду Гараваму, актывісту Руха "За Свабоду!", ліст з тлумачэннем сваёй адмовы ад прашэння аб памілаванні**

У сваім апошнім лісце да Мікалая Статкевіча Леанід Гаравы напісаў аб тым, кіраўнік краіны на прэс-канферэнцыі сказаў, што Статкевічу не трэба "прызнаваць сваю віну", а дастаткова напісаць заяву аб памілаванні для свайго вызвалення.

Палітычны вязень Мікалай Статкевіч у адказе заявіў наступнае: "Прапанова не новая, бо пра такую мажлівасць мне намякалі яшчэ восенню 2011 г. ў Шклоўскай калоніі, а летам 2012 г. ясна і канкрэтна казалі тут. Натуральна, што я не прыняў тады і не прыму зараз такой прапановы.

Па-першае, сам факт прашэння аб памілаванні, ня важна з прызнаннем віны ці не, сведчыць аб гэтым прызнанні. Па-другое, галоўнае для іх зусім не гэта, а пасада адрасата "прашэння", якую б ім хацелася, каб я напісаў на тым "прашэнні".

Па сутнасці, з мяне ўжо болей за два гады выціскаюць заяву аб прызнанні легітымнасці. Не дачакаюцца. Трымайцеся.

З павагай і ўдзячнасцю, М. Статкевіч"

Нагадаем таксама, што ў лістах да жонкі Марыны Адамовіч Мікалай Статкевіч папярэджвае, што ліст аб "прашэнні" можа быць сфабрыкаваны почаркам падобным на яго. Але палітвязень да яго не будзе мець ніякага дачынення.

**Л. Антонаў**

ФІНАНСАВЫ КРЫЗІС

## ФІНАНСЫ СПЯВАЮЦЬ РАМАНСЫ

**Фінансавыя вынікі 2013 года па Гарадоцкаму раёну засведчылі далейшае пагаршэнне фінансавага становішча арганізацый рэгіёна. Гэта становішча ставіць шмат пытанняў у перыяд падрыхтоўкі да "Дажынак".**

Па даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта фінансавыя паказчыкі арганізацый раёна значна пагоршыліся за 2013 год. Калі ў 2012 годзе быў прырост прыбыткаў на 19944 млн. руб, то ў мінулым годзе прадпрыемствы раёна спрацавалі са стратамі на 45615 млн. рублёў. Адпаведна рэнтабельнасць продажаў стала адмоўнай на 2,7 %, а колькасць стратных арганізацый павялічылася амаль у тры разы да 38,1%. Пры гэтым колькасць пратэрмінавай дэбіторскай запазычанасці павялічылася на 6,5 млрд. рублёў – на столькі было пастаўлена неаплачанай прадукцыі прадпрыемстваў за якую яны не атрымалі грошаў і тэрміны аплаты даўно прайшлі.

Пры гэтым зусім праблематычна атрымаць новыя крэдыты на дзейнасць, бо пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць павялічылася больш чым у два разы і дасягнула 141 мільярд 286 млн рублёў. У гэтай запазычанасці больш чым у чатыры разы павялічылася запазычанасць па падатках, зборах, сацыяльнаму страхаванню, дасягнуўшы 8 681 млн. руб.

У пазітыве магчыма адзначыць, што зменшылася больш чым на мільярд запазычанасць за паліўна-энергетычныя рэсурсы. На канец года гэты доўг склаў 4060 млн. рублёў.

Цікава будзе пабачыць вынікі гэтага года, калі ў рэгіёне павінна быць укладзена амаль два трыльёна на падрыхтоўку да "Дажынак – 2014".

**Л. Антонаў**

СМІ ПРА ГАРАДОЧЧЫНУ

# НЕ НАРОДЗІЦЦА КОЛАС ГУСТОЙ НА ЗЯМЛІ ПУСТОЙ

**Што перашкаджала будучым гаспадарам «Дажынак-2014» атрымліваць годныя ўраджаі? Карэспандэнт «Сельской газеты» Васіль Гэдройц скрупулёзна вывучыў праблемы збожжавай гаспадаркі раёна . Прадстаўляем увазе чытачоў газеты яго трэцці артыкул.**

У Гарадоцкім раёне на бала-гектар выробляюць збожжа больш, чым у сярэднім па краіне. Аднак ільвіная доля яго ідзе быдлу. Таму мае значэнне, колькі кілаграмаў можна вылучыць адной галаве. Карціна, на жаль, сумная. Дапаўняе яе недахоп у рацыёнах жывёл якасных травяных кармоў з-за расцягнутых тэрмінаў іх закладкі. У папярэднім лісце мы казалі, што першы ўкос тут доўжыцца месяц замест двух тыдняў па нормах. Сёння ж паспрабуем разабрацца ў прычынах збожжавай і травяной праблем, якія ў асноўным і ўплываюць на падзенне надояў у раёне.

**Непад'ёмны лізінг**

Неяк давялося пачуць такое меркаванне: трэба паскорыць нарыхтоўку кармоў, узмацніць кантроль за якасцю, і яны, маўляў, стануць лепш.

- Падыходам тыпу «узмацніць», «палепшыць» гэтая праблема не вырашаецца, - лічыць выконваючы абавязкі першага намесніка начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Гарадоцкага райвыканкама Павел Курачонак. - Бо ўсё ўпіраецца ў недахоп тэхнікі.

У раёне на 8 гаспадарак 41 касілка. Каб укладвацца ў аптымальныя тэрміны уборкі траў, трэба дадаткова 12. Ёсць 18 грабель - не хапае 6. Увогуле ў парку 27 кормаўборачных камбайнаў, а неабходна ў два разы больш.

Грошай на новую тэхніку ў большасці гаспадарак няма. Калі яны і з'яўляюцца, то ідуць пераважна на рамонт старой. Тэаратычна камбайны, граблі, касілкі, як і многае іншае, можна набыць у лізінг. Але вытворцы гатовыя на такі варыянт, калі няма пратэрмінаванай запазычанасці па папярэдніх пастаўках. А яна, на жаль, ёсць практычна паўсюдна. Не кажучы ўжо пра тое, што трэба дзесьці знайсці грошы на першы ўнёсак пры куплі тэхнікі - 10 адсоткаў кошту. Для кормаўборачнага камбайна гэта прыкладна 250 мільёнаў рублёў. Большасць гаспадарак штомесяц ледзь наскрабае на зарплату сваім работнікам.

**Тукавае пытанне**

Галоўны спецыяліст па вытворчасці ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама Таццяна Іванова сцвярджае, што ў год для буйной рагатай жывёлы раёна трэба 18 тысяч тон збожжа. У 2013 - м тут сабралі 28 тысяч. Але пасля выканання дзяржзаказу, забеспячэння птушкафабрыкі і свінакомплексу прадпрыемства «Паўночны» буйной рагатай скаціне засталося толькі 7 тысяч тон. Яшчэ 2 тысячы закупляюць замежамі раёна. Увыніку буйной рагатай жывёлы забяспечаны канцэнтратамі толькі напалову ад неабходнага.

Чаму ў раёне так востра стаіць праблема фуражнага збожжа і ці можна павялічыць яго валавы збор?

Зямлі тут небагатыя. Урадлівасць сельгасугоддзяў - 17,3 бала, раллі - 20,3. Для параўнання: апошні паказчык у сярэднім па Віцебскай вобласці - 26,6, па краіне - 31,2. Гэта азначае, што пры аднолькавых укладаннях аддача ад глебы ў Гарадоцкім раёне заўсёды будзе ў паўтара разы горш, чым па рэспубліцы. Але ці можна ўсё патлумачыць толькі прыроднымі ўмовамі? У 2005-м раён атрымаў на бала-гектар 103 кілаграма збожжа, праз год - 122, у 2007-м - 145, у 2008-м - 151, у 2009-м - 144, затым тры гады запар прыкладна па 130. У 2013-м выйшла толькі па 91 кілаграму. Спецыялісты кажуць, што мінулы год быў нетыповым: перашкодзіла засуха. Але нельга не заўважыць, што 5 гадоў раён няўхільна зніжаў ўраджайнасць збожжавых, у той час як краіна ў цэлым, за выключэннем мінулага неспрыяльнага года, дадавала. Менавіта недахоп канцэнтратаў і стала найважнейшай прычынай падзення надояў па раёне амаль з 4 тысяч кілаграмаў ад каровы ў 2009-м да 3,5 тысячы - у мінулым годзе.

У большасці гаспадарак не ведаюць, як вырашыць праблему. Характэрны ў гэтым плане прыклад ААТ "Гарадоцкі льнозавод". Прадпрыемства мае 1,5 мільярда рублёў пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці, таму новых грошай на ўгнаенні банк не дае. Дзе іх шукаць? Трэба павялічыць продаж малака, лічыць дырэктар Уладзімір Варанко. Тады будзе магчымасць разлічыцца за старыя крэдыты і атрымаць магчымасць браць новыя. Аднак тут ўсплывае яшчэ адна праблема. Завод на тры месяцы наперад ужо заклаў усю сваю будучыню малако перапрацоўчаму прадпрыемству на суму каля двух мільярдаў рублёў. І любы прырост пойдзе перш за ўсё туды.

Што рабіць у сітуацыі, калі без дастатковай колькасці тукаў раён асуджаны на невысокі ўраджай збожжавых? Улічваючы правядзенне ў раёне рэспубліканскіх «Дажынак», трэба прасіць дапамогі ў дзяржавы. Толькі пры дадатковай бюджэтнай падтрымцы можна разлічваць, што да свята хлебаробаў гарадоцкія сельгасвытворцы збяруць дастойны ўраджай.

**Галіна без аграномаў**

Не хапае ў гарачую пару ў гаспадарках і механізатараў. Гэтая праблема ў раёне вырашаецца за кошт прыцягнення іх з гарадскіх прадпрыемстваў і арганізацый. Але ёсць праблема больш сур'ёзная. Гэта недахоп спецыялістаў у раслінаводстве. У некаторых гаспадарках няма ні аднаго работніка агранамічнай службы. Каму ў гэтай сітуацыі кантраляваць севазвароты, сачыць за ходам сяўбы, догляду за раслінамі і уборкай? Ці не гэта адна з прычын нізкіх ураджаяў у сельгаспрадпрыемствах разам з недахопам тэхнікі і угнаенняў?

Не магу не закрануць і такі аспект збожжавай праблемы. У мінулым годзе тут увялі ў абарачэнне чатыры тысячы гектараў раллі па абласной праграме «Чыстыя палі», якая прадугледжвае ачыстку іх ад хмызнякоў. У 2014 - м раённы фонд сельгасугоддзяў папоўніцца яшчэ на тры тысячы гектараў. Падыход у аўтараў праграмы ў тэорыі правільны: больш зямлі - больш збожжа. Але на практыцы атрымліваецца, што калі ў пустую зямлю пакласці насенне, то яны прынясуць адны страты.

Так, можа, варта было выдаткаваць грошы на павышэнне эфектыўнасці існуючых плошчаў? *(скарочана)*

**Васіль Гэдройц «СГ»**

ДАЖЫНКІ-2014

# ЗАВЯРШЫЦЬ ДА 1 ВЕРАСНЯ

**Пра гэта заявіў 21 лютага старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец.**

Аляксандр Косінец падкрэсліў, што падрыхтоўка аб'ектаў горада вядзецца ў планавым рэжыме. Пры своечасовым фінансаванні завяршыць гэтую працу плануецца да 1 верасня.

З абласнога бюджэту на падрыхтоўчыя работы ў мінулым годзе было выдзелена Br50 млрд. Сродкі пайшлі на выраб неабходнай дакументацыі, а таксама добраўпарадкаванне цэнтральнай плошчы Гарадка, размешчанага побач воінскага пахавання, рэканструкцыю аўтавакзала і будынка райвыканкама. На 2014 год на ўсе аб'екты будаўніцтва і рэканструкцыі, працы на якіх могуць фінансавацца за кошт бюджэтных сродкаў, плануецца накіраваць Br435 млрд. Акрамя таго, фінансаванне будзе ажыццяўляцца па лініі прадпрыемстваў і арганізацый, уласнікаў аб'ектаў, спонсарскай дапамогі.

Улік усклада ных аб'ектаў, паякіх ёсць пытанні, Аляксандр Ацясаў назваў лыжаролерную трасу, цэнтральны гарадскі рынак, каледж сельскагаспадарчай вытворчасці імя І.В.Дарошчанка, дзве трасы рэспубліканскага значэння і некаторыя іншыя.

Віцэ-прэм'ер Беларусі Міхаіл Русыдаручыў Мінбудархітэктуры ўзяць на кантроль кожны аб'ект, які рыхтуецца да рэспубліканскіх "Дажынак", тэрміны выканання праектна -каштарыснай дакументацыі, будаўніцтва і рэканструкцыі. Самая пільная ўвага, на яго думку, павінна быць нададзена падрыхтоўцы ў Гарадку фізкультурна - аздараўленчага комплексу, стадыёна, гасцініцы, дарог і іншых ключавых аб'ектаў. "Будзьце ашчадныя, але прывядзіце ў парадак горад", - сказаў на заканчэнне ён.

Праца удзельнікаў штаба працягнулася наведваннем аб'ектаў у Гарадку і Гарадоцкім раёне.

**Вольга Багачова**
**БелТА**

ЯКАСЦЬ ПРАЦЫ

# ПАРУШЭННЕ ТЭХНАЛОГІІ

**Распачатая ў зімовы перыяд тэрмарэнавацыя жылых дамоў парушае тэхналогію ўцяплення і можа разбурыць сцены дамоў.**

Будаўнічы ажыятаж усё мацней ахоплівае Гарадок. Не чакаючы цёплых дзён будаўнікі завяршылі уцяпленне дома 30 па вул. Гагарына, а таксама вядуць адпаведную працу яшчэ на чатырох дамах. І гэта адбываецца нягледзячы на тое, што па тэхналогіі непажадана весці тэрмарэнавацыю ў зімовы перыяд.

"Выбраляць ўцяпленне дамоў лепш за ўсё калі на вуліцы усталёўваецца станоўчая тэмпература. Пажадана, каб паветра прагрэлася хоць бы да плюс 5 градусаў, - сказаў "Штодзённіку" Уладзімір Кляпацкі, дырэктар ПП "Вертыкальныя тэхналогіі". - Справа ў тым, што пенапласт, які часта выкарыстоўваюць для ўцяплення, не прапускае вільгаць. Калі яго накладваюць на сырую або прамёрзлую сцяну, яна ўжо ніколі не высахне і назаўжды застанецца мокрай. З-за гэтага ўтвараецца волкасць, потым паўстане цвіль. Хоць я езджу па горадзе і бачу, што некаторыя і цяпер займаюцца гэтай працай, а ўцяпленне падчас капрамонтаў наогул у нас рабілі пры мінус 20 градусах".

Сапраўды, пасля вонкавага ўцяплення будынка на сценах можа ўтварыцца цвіль і грыбок ўнутры памяшкання. Непрафесіяналы любяць вінаваціць у гэтым залішнюю герметызацыю будынка-маўляў, пакрылі сцены уцяплялнікам, паветраабмен упаў да нуля, таму ў пакоях ўтварыўся эфект шклярніцы. Калі б праблема складалася ў гэтым, яе лёгка б вырашылі частымі ветрання. Аднак у рэчаіснасці усё аказваецца значна складаней.

Калі няправільна абрана таўшчыня матэрыялу, кандэнсацыя вільгаці можа адбываецца паміж сцяной і уцяплялнікам. Узімку вільгаць паміж імі замерзне. І калі такі уцяплялнік прыбраць, мы ўбачым, што дом пакрыты скарынкай лёду. Гэта не толькі зніжае эфект ад ўцяплялніка, але і руйнуе сцены. (www.realty.ej.by).

Парушэнне тэхналогіі чыноўнікі апраўдваюць недахопам часу на падрыхтоўку да "Дажынак". Але яго недахоп узнік перш за ўсё за кошт доўгай раскачкі цягам амаль аднаго года. Той жа дом 30 капітальна адрамантаваць павінны да 31 снежня 2013 года, але рамонт і зараз не закончаны. Аналагічная сітуацыя з рэканструкцыяй плошчы, могілак. Рамантаваць распачалі з чэрвеня. Тэхпашпарт з'явіўся ў кастрычніку, але да сакавіка аб'ект таксама не паспяваюць рэканструіраваць.

**Л. Антонаў**

ГАРЫМ!

# ЧАРГОВЫЯ АХВЯРЫ "ЗЯЛЁНАГА ЗМЕЯ"

**Перад гэтымі выхаднымі лік ахвяраў на пажарах у Гарадоцкім раёне павялічыўся яшчэ на два чалавека. Трагічны выпадак зафіксаваны ў Межанскім сельсавеце. Усяго па вобласці за выхадныя дні адбылося 14 пажараў на якіх загінула 6 чалавек.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага УМНЗ 7 лютага ў 19часов 10 хвілін у Гарадоцкі РАНЗ ад суседкі паступіла паведамленне аб пажары жылога дома па адрасе: Мяжанскі сельсавет, в. Сячонка, вул. Цэнтральная.

Пасля прыбыцця выратавальнікаў да месца выкліку назіралася адкрытае гарэнне драўлянага жылога дома. Гаспадыня дома, 1950 г.н. пражывала сумесна з пенсіянерам таксама 1950 г.н. Са слоў суседзяў напярэдадні пажару гэтыя пенсіянеры былі заўважаныя ў нецвярозым стане. На момант пажару знаходзіліся ў доме. Пасля тушэння пажара пад пластом будаўнічых канструкцый знойдзены трупы сужыцеля і гаспадыні дома.

Як мяркуецца, прычына пажару - неасцярожнасць пры курэнні гаспадыні ў нецвярозым стане.

Нагадаем, што ў мінулую нядзелю 2 лютага ў в. Марчанкі загінулі сын і маці сталага ўзросту, а ў студзені згарэў апошні жылы дом у в. Антоненкі, дзе загінуў яшчэ адзін грамадзянін.

**Т. Гаражанка**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ДАТА

# 6 ЛЮТАГА – 100 ГОДДЗЕ АРКАДЗЮ КУЛЯШОВУ

**Наш паэт пазначаны ў даведніках як беларускі савецкі паэт. А апошняя яго паэма "Хамаціус" была прысвечана нацыянальнаму герою Беларусі Кастусю Каліноўскаму. І ў школьныя праграмы яна не трапіла ды і сам народны паэт прадстаўлены ў праграме тэндыцыйна.**

Красамоўна пра Куляшова ў свой час казаў Сяргей Грахоўскі: "Куляшоў несмяротны як паэт, але ён быў нашым сумленным, нашым маўклівым суддзёю: аддаючы вершы ў друк, я заўсёды трывожыўся, што падумае, што скажа Куляшоў... Узорам поўнай аддачы, эталонам глыбіні, чысціні і майстэрства засталася яго паэзія, якую будзем спасцігаць і мы, і нашы нашчадкі. Яна нікому не дазваляе працаваць у паўнапала душы, яна глядзіць нам у вочы; як сумленне, застаўся яго запавет: «Лепш падаць і ўставаць з нялёгкай ношкаю, чым злёгку папіхаць яе рукой». Ён упаў пад гэтаю ношкаю. Хто ж яе панясе далей, раўняючыся на сцяганосца паэтычнай брыгады?"

*Мой родны брат! Я пакідаю свет.*
*Пішу табе не ліст, а запавет...*
*Узняўшы бунт, народу-жабраку*
*Мы камень падалі, а не руку.*
*Мы гінем ад таго, што абяцалі*
*Зямлю яму, а не далі ні цалі.*
*Калі затрубіць новай бітвы рог,*
*Паўстанец пакладзе на твой парог*
*Мой запавет...*

*Ты смела ўзыдзеш на круты памост*
*І станеш перад смерцю ў поўны рост...*
*Праз мутнае акно сваёй пятлі*
*Зірнеш у вочы людзям, а калі*
*Зямлю асвеціць сонца, што ў засадзе*
*Таілася да гэтае пары,*
*Ты ўчуеш песню жаўранка ўгары.*
*Убачыш мужыка на даляглядзе*
*З канём і сошкай і шапнеш:*
*«Ары!»*

**З "Хамаціус"**

ЗА АДКРЫТАСЦЬ

# АБ КАМПАНІІ «ПРАВА ВЫБАРУ»

**Падчас гэтых выбараў мы абіраем людзей, якія будуць прадстаўляць нашыя інтарэчы ў мясцовых органах улады. Гэтым людзям мы давяраем кантраляваць бюджэт раёна, працу камунальных службаў, адстойваць нашае з вамі права на камфортныя умовы жыцця.**

Мы, актывісты вядучых дэмакратычных сілаў Беларусі, верым у тое, што мясцовыя органы ўлады здольныя працаваць у інтарэсах грамадзян толькі тады, калі яны сапраўды абраныя народам. Падчас кожных выбараў улада выкарыстоўвае маніпуляцыі і фальсыфікацыі, каб перамогу на іх атрымалі тыя кандыдаты, якія паставяць інтарэсы трымальнікаў улады вышэй за інтарэсы грамадзян.

**«Права выбару»** - гэта кампанія назірання за выбарамі ў мясцовыя Саветы 2014 г., галоўнай задачай якой з'яўляецца супраца з дэмакратычным кандыдатам у дэпутаты мясцовых саветаў па вызначэнні і абароне сапраўднага волевыяўлення грамадзян.

**Звязацца з арганізатарамі кампаніі** магчыма праз мэйл: press@pravovybora.by

**З каардынатарам** па Віцебшчыне: **+375 29 218-98-38** і пошта: kas_vit@tut.by, скайп: **kas-moll**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# БЕЛОРУСОВ ГОТОВЯТ К СМЕНЕ ПРАВИТЕЛЬСТВА И ДЕВАЛЬВАЦИИ

**За последние две недели ряд высокопоставленных чиновников начал резать правду-матку о том, что в белорусской экономике «что-то не так». При этом информация о неконкурентоспособности белорусской продукции доводится через СМИ до широкой аудитории.**

**Чиновники признаются: с экономикой что-то не так**

Первым на тему неконкурентоспособностибелорусских товаров высказался вице-премьер Беларуси Петр Прокопович. *«Александр Григорьевич, надо же быть реалистами — у нас нет ни одного машиностроительного предприятия, которое было бы конкурентоспособно с мировыми лидерами. Для того чтобыМАЗитракторныйзавод были конкурентоспособными, надо еще вложить миллиарды и сотни миллионов. Это же сегодня наша реальность»*, — огорошил он 4 февраля Александра Лукашенко на совещании по проблемам развития промышленного комплекса и, в частности, затоваренности белорусских складов.

**Дальше — больше!**

Посол Беларуси во Франции Павел Латушко, на которого «повесили» сбыт наших товаров за рубежом, вообще признался, что *«наша техника на презентациях просто ломается»*.

На эту тему высказался также премьер-министр **Михаил Мясникович**. В интервью телеканалу «РТР-Беларусь», показанному в эфире 8 февраля, он заявил, что «к сожалению, отечественные предприятия, в том числе брендовые, сегодня значительно уступают по качеству, и тенденция — к ухудшению».

*«Мы не умеем торговать. Это откровенно. Инженеры хорошие, технологи неплохие, а то, что касается продать и управлять предприятием, — здесь слабоваты»*, — посетовал премьер-министр.

Марафон откровенности продолжил еще один вице-премьер **Владимир Семашко**. *«В последние два года (особенно в конце прошлого — начале этого года) я отмечаю достаточно резкое снижение качества нашей продукции»*, — заявил он 12 февраля на коллегии Госстандарта.

Председатель правления Банка развития Сергей Румас сделал из этого всего вывод, что «наша экономика пока не начала выздоравливать», поэтому подъёмных кредитов промышленным предприятиям в обозримом будущем не видать.

Слова — словами, но об ухудшении дел в промышленности свидетельствуют цифры. За минувший год вклад промышленности в прирост ВВП составил всего 1,4%.

**Грядет смена правительства и разовая девальвация**

При всём при этом возникает еще один закономерный вопрос, с какого перепугу чиновники начали рубить правду-матку о тяжелой ситуации в экономике на всю страну?!

Таким образом высокопоставленные госслужащие пытаются перевести стрелки за провалы в экономике на директоров предприятий, концернов и холдингов, считает руководитель научно-исследовательского центра Мизеса **Ярослав Романчук**.

*«Понятное дело, что кого-то отдадут на заклание за невыполнение планов как минимум последних двух лет и четвертой пятилетки в целом. Никому не хочется составить компанию Михаилу Мясниковичу, который, совершенно очевидно, уже в новом правительстве никакой должности занимать не будет»*, — говорит экономист.




Нынешний премьер-министр, прогнозирует эксперт, сделает всё для того, чтобы продержаться на должности еще один год и за это время подыскать себе работу для благополучной встречи старости.

А вот кресло премьер-министра в будущем многие пророчат председателю правления Банка развития **Сергею Румасу**.

Как говорит Ярослав Романчук, власти сейчас как раз подходят к тому моменту, чтобы провести ротацию кадров на уровне правительства.

*«С периодичностью раз в пять-десять лет у нас меняются люди, которые распоряжаются государственными ресурсами. Меняются даже бизнесмены, которые участвуют в госпрограммах»*, — говорит Ярослав Романчук.

При этом чиновники не забывают полить грязью один одного.

*«Заметьте, никто из чиновников не предлагает поменять систему, отказаться от финансирования госпрограмм в таком объеме и таком количестве. Никто не говорит о необходимости расширения частного сектора в экономке, а просто говорят, что эти распределяли по разным причинам плохо, а вот на новом витке трат госденег мы почему-то будем делать это хорошо»*, — отмечает экономист.

Он называет этот процесс *«жертвоприношением кадров, которых могут назначить козлами отпущения, чтобы освободить место для других, в рамках той же системы координат»*.

*«Хотя такие раздраи не на руку Александру Лукашенко. Они не добавляют популярности власти, а за результат в конечном итоге отвечает сам Лукашенко»*, — считает Ярослав Романчук.

**Александр Ярошевич**
**naviny.by/rubrics/economic/2014/02/18/ic_articles_113_184635**

ПРАБЛЕМЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

# ДЗЯРЖАВА ХОЧА ЛІКВІДАВАЦЬ БАЗАР, АЛЕ НЕ ПАБУДАВАЛА РЫНАК

**18 лютага на нарадзе прэзідэнта Беларусі з урадам па праекце ўказа «Аб некаторых пытаннях рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі» Аляксандр Лукашэнка заявіў, што «калі вы пасля сённяшняй гутаркі паспрабуеце недзе зладзіць страйк, не будзеце працаваць на сваім працоўным месцы, вы больш туды не прыйдзеце».**

Naviny.by вырашылі разабрацца, што можа штурхнуць прадпрымальнікаў на страйк і ці гатовыя яны да крайніх мерам.

**Паспець да 1 ліпеня**

У праекце ўказа для індывідуальных прадпрымальнікаў - плацельшчыкаў адзінага падатку з 1 ліпеня 2014 г устанаўліваецца абавязак дакументальна пацвярджаць набыццё прадукцыі, якая рэалізуецца. Аляксандр Лукашэнка заявіў, што яшчэ аднаго пераносу тэрмінаў увядзення гэтага патрабавання чакаць не варта.

На нарадзе выступіў старшыня Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Калінін. Як адзначыў кіраўнік БСП у каментары для Naviny.by, прапанаваны ўрадам ўказ вельмі жорсткі.

«Намі прапанаваныя меры, накіраваныя на кампраміс. У тым ліку такія істотныя, як вяртанне наёмных работнікаў і ўвядзенне ў дакументаабарот закупнога акту», - паведаміў Калінін.

Кіраўнік дзяржавы даручыў ураду сумесна з прадпрымальнікамі выпрацаваць ўзгодненый варыянт указа. «Таму Беларускі саюз прадпрымальнікаў у цяперашні час рыхтуе і ўнясе ў панядзелак на нарадзе ў прэм'ер-міністра свой варыянт указу. Зараз гэта рабочы дакумент, які каментаваць бессэнсоўна», - лічыць кіраўнік БСП.

Адказваючы на пытанне аб ультыматыўных заявы Лукашэнкі ў адрас прадпрымальнікаў , Аляксандр Калінін адзначыў, што кіраўнік дзяржавы можа казаць тое, што лічыць патрэбным.

«Мы супраць забастовак, і лічым, што гэта не метад. Мы настроены на канструктыўны дыялог з урадам і выпрацоўку нармальнага, якое б задаволіла ўсіх парадку пераходу на той рэжым, які ўрад лічыць неабходным», - заявіў Аляксандр Калінін.

Сам ён асабіста задаволены сустрэчай з прэзідэнтам і лічыць, што да 1 ліпеня бакі ў стане выпрацаваць ўсе неабходныя нарматыўныя акты на рахунак з'яўлення ў Беларусі свайго «Чаркізаўскага» рынка.

«Чаму мы павінны закупляцца ў той жа Расіі? На крайняй меры, тут можна будзе кантраляваць якасць тавараў. Проста стварыць яго складана», - адзначыў ён.

**Хто каго не чуе ?**

Не плануе пратэстных акцый і актыўна абараняе інтарэсы іпэшнікаў грамадскае аб'яднаньне «Пэрспэктыва», на якое асабліва папеляў кіраўнік дзяржавы.

«І ганіце ад сябе усялякіх там Шумчанка, не тое яшчэ кагосьці, каб яны нават блізка каля вас не хадзілі. У іх няма нічога з вамі агульнага і быць не можа, ім трэба іншае», - казаў на нарадзе ў адрас прадпрымальнікаў Аляксандр Лукашэнка.

Сам старшыня савета РГА "Пэрспэктыва" Анатоль Шумчанка распавёў, што ніхто і не планаваў весці людзей на барыкады.

«Я на нарадзе і Пракаповічу (віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч. - Naviny.by) сказаў, што мы страйку не збіраемся ладзіць. Таму што гэта называецца арганізаваным пратэстам і гэта вельмі вялікая раскоша. Калі ў канцы года прадпрымальнікі на месцах выказвалі сваю пазіцыю, яна была вельмі красамоўная. Таму, калі ўлада прыме тыя правілы, пра якія кажа Лукашэнка, дык няхай яны іх выконваюць. І калі не хочуць слухаць нас, «Перспектыву», то тады няхай пачуюць і сутыкнуцца з народам. Мы не супраць, каб яны даведаліся пра сябе меркаванне простых людзей», - растлумачыў старшыня "Перспектывы".

«Мы напісалі зварот, і мне людзі тэлефануюць і кажуць, што ўсё правільна. Яны так і заяўляюць, што па тых правілах, якія для нас хочуць стварыць, мы працаваць не зможам. Я хачу адзначыць, што «Перспектыва» заўсёды адкрыта да дыялогу, але пасля слоў прэзідэнта, я не ўяўляю, як чыноўнікі будуць з намі працаваць», - адзначыў Шумчанка.

Старшыня «Перспектывы» яшчэ раз звярнуў увагу на непазбежныя эканамічныя страты пасля ўвядзення суправаджальных дакументаў як для ІП, так і для дзяржавы.

Сёння прадпрымальнікі выплачваюць адзіны падатак наперад, і дзяржава стабільна атрымлівае добрыя падатковыя паступлення незалежна ад таго, атрымлівае даход плацельшчык альбо не. Плацяжы закладваюцца ў бюджэт, і яны будуць заўсёды атрыманы ў поўным аб'ёме.

«Калі будуць уведзеныя суправаджальныя дакументы, сэнс адзінага падатку будзе страчаны. Даходы ў выглядзе падаткаў ад ІП, паводле нашых ацэнак, упадуць у 2-3 разы па аналогіі з групамі тавараў, ужо выведзены з-пад дзеяння адзінага падатку», - растлумачыў Шумчанка.

Дарэчы, як заявіў на ўчорашняй нарадзе Аляксандр Лукашэнка, «ніхто не павінен быць пакрыўджаны, трэба разгледзець прапановы кожнага чалавека».

**Марыя Грыца**
**Белапан**

РЭХА ПАДЗЕІ

# У ЯКІХ ІНТЭР'ЕРАХ І ЯК ЖЫЎ ЯНУКОВІЧ У МІЖГОР'І.

**Міжгор'е — загарадная рэзідэнцыя Віктара Януковіча. Некалькі гадоў таму яна была прыватызаваная, што выклікала скандал. Цяпер дэпутаты «Свабоды» прапануюць нацыяналізаваць Міжгор'е.**

Як стала вядома, напярэдадні ўцёкаў сям'я Януковіча грузавікамі і верталётамі вывезла ўсё каштоўнае з Міжгор'я. Але інтэр'еры і яхты забраць з сабой яны не маглі.

У якіх інтэр'ерах і як жыў Януковіч? Гэта бачна на здымках фатографаў Ройтэрз.

У рэзідэнцыю Віктара Януковіча выстройваюцца чэргі, як у маўзалей або першае фаст-фуд-кафэ ва Украіне.

Дом, у якім ён жыў, дзівіць сваёй пампезнасцю. А рэзідэнцыя па тэрыторыі большая за старажытны горад Вышгарад.

Чорную бухгалтэрыю сям'і, якую дасталі з вады, а гэта каля 20 тысяч дакументаў, будуць старанна вывучаць.

«Толькі адзін дакумент, які ў мяне ў руках — гэта адна кампанія Януковічаў сплаціла другой — 56 мільёнаў грыўняў (5,6 млн даляраў). Было прысвоена не менш за 10 мільярдаў грыўняў (1 млрд даляраў), і гэта 10 працэнтаў з таго, што мы прагледзелі», — распавядае Дзмітрый Гнап. Ён упэўнены, што самыя важныя звесткі ўсё ж такі ўдалося знішчыць.

Разам з паперамі — іншая знаходка — сотні боепрыпасаў. «Два віды пісталетаў, СВД, АКМ, АКС. Цэлую роту можна узброіць, 70-80 чалавек», — кажа Гнап.

Самаабаронаўцы ўпэўненыя, што на дне ёсць яшчэ нямала куль, ёсць і зброя, пакуль ад яе знаходзяць толькі чахлы. Ахоўнікі ўпэўненыя, уцякаючы, экс-гарант прыхапіў нямала цікавага.

Так, у калекцыі рарытэтных аўто (плошча гаража дзве тысячы метраў) дзе захоўваецца не менш за паўсотні савецкіх легкавікоў і ваеннай тэхнікі, знік каштоўны экспанат — «Хорх» 1935, такіх ва Украіне ўсяго 7 мадэляў.

На тэрыторыі рэзідэнцыі — беспрэцэдэнтныя меры бяспекі. Толькі шлях Януковіча ў сяло Новыя Пятроўцы адсочваўся амаль трыма дзясяткамі камер. Пад зямлёй таксама знайшлі кучу хадоў, але, іх карты няма.

Першае, што Януковіч старанна сачыў за здароўем, сведчаць уласная ферма і лабараторыя.

Усё, што піў і еў экс-прэзідэнт Украіны эксперты даследавалі на радыяцыю, праводзілі бактэрыялагічныя і біялагічныя выпрабаванні. «Вымяралі ўсё, колькі жалеза, магнію.

Ён мамалыгу любіў, вось яму прывозілі 10-15 відаў проб з іх выбіралі тую, якую ён будзе прымаць», — распавядае актывіст.

Ваду для прэзідэнта чысцілі мінімум дванаццацю ступенямі ачысткі.

Уласная АЗС, прынамсі дзве кацельні, стайня, заапарк, лазні, гасцявыя дамы і нават племянны кіналагічны цэнтр закрытага цыклу. Тут — 15 сабак англійскага і тыбецкага масціфаў і каўказцы. Шчанюкоў тут гадавалі выключна для падарункаў, кажа кінолаг.

**tsn.ua**

ДАЛУЧАЙСЯ!

# ПАЧАЎСЯ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА “НАРОДНЫ РЭФЕРЭНДУМ”

**Беларусі патрэбны новы рэферэндум, на якім народ сваім рашэннем вызначыць далейшае развіццё краіны. «Народны рэферэндум» - гэта ваша законнае права выказацца, права быць пачутым, гэта ваш заслужаны шанец на перамены, на вяртанне павагі да сябе з боку ўлады, на магчымасці ў надзейнай дзяржаве.**

На «Народны рэферэндум» яго ініцыятары (кампанія «Гавары праўду», Рух «За Свабоду» і Партыя БНФ) на падставе меркаванняў дзясяткаў тысяч простых беларусаў і спецыялістаў у розных галінах абралі шэсць найбольш папулярных і важных пытанняў.

***1. Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?***

***2. Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?***

***3. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?***

***4. Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?***

***5. Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?***

***6. Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?***

Менавіта праз правядзенне "Народнага рэферэндуму" і наступную рэалізацыю народных пытанняў мы зможам пабудаваць надзейную краіну, заснаваную на павазе да людзей.

**Народ патрабуе павагі!** Народны рэферэндум – гэта магчымасць большасці беларусаў заявіць пра сябе, пра свае правы быць паважаным і пачутым, жыць годна. Магчымасць выказацца пра тое, як жыць далей. Мы лічым, што Беларусі патрэбны новы рэферэндум, які вызначыць далейшае развіццё краіны і верне грамадзянам павагу і магчымасці.

**Ад рэдакцыі:** ***паставіць свой подпіс за «Народны рэферэндум» вы можаце, калі звяжыцеся з рэдакцыяй газеты. Кантактныя даныя дадзены на чацвёртай старонцы.***

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 26.02.2014 у 17.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.